**(Працяг з 1-й бачыны).**

ніку можна запэўніць водпуск і т. п. У першую чаргу мае права на водпуск нямецкі жаўнер. Ён ува ўсіх выпадках умяшаецца, і судздзяў, каторыя відавочна не разумеюць наказ часу, звольніць з іх становішчаў.

**У заканчэньні сваёй прамовы** Фюрэр гаварыў аб пагрозах сваіх праціўнікаў і падчырківаў, што сваё заданьне ён лічыць занадта сьвятым і паважным, каб быць калі-небудзь лёгкадумным. Калі Англія мае думку вясьці далей распачатую паветраную вайну супроць цывільнага насельніцтва з новымі сродкамі, то ён дае гваранцыю, што ад сягоньняшняга дня ён памсьціць ударам за ўдар, і гэты яго адказ прынясе ангельскаму народу многа цярпеньня. Ён падзякаваў тады ўсім сваім супрацоўнікам і партыйным сябрам за іх зробленую працу і перайшоў на посьпехі нямецкіх падводных лодак. Колькасьць нямецкіх падводных лодак расьце стала з месяца на месяц і даўно перавысіла найбольшы лік з часоў сусьветнай вайны.

У гэтай барацьбе, закончыў Фюрэр, пераможа праўда. А яна будзе пры нас. Што мяне лёс, прадаўжаў Фюрэр, выбраў у такі вялікі час вясьці Нямецкі Народ, у гэтым мая адзіная гордасьць. Я сваё імя і жыцьцё хачу безварункова зьвязаць з лёсам Нямецкага Народу. Я да Ўсеўладнага Госпада Бога ня маю іншай просьбы, як пасьвяціць нас і мне захаваць жыцьцё да таго часу, калі гэта ў Яго вачох патрэбна для нашай рашучай барацьбы. Бо няма ніякай большай славы, чым гонар быць Правадыром народу і гэтым нясьці ўсю адказнасьць у цяжкія часы. І я не магу адчуваць большага шчасьця, ведаючы, што гэты народ зьяўляецца маім нямецкім народам!

Хваля захапленьня і маніфэстацыя любові і адданасьці нясецца да Фюрэра, калі ён скончыў, і выяўляе гэтым актам новую нястрыманую адданасьць Адольфу Гітлеру. Гэрман Гёрынг у гэты ўзвышаны настрой любові й захапленьня кідае кліч: Перамога! Слава! пасьля таго, як ён ад імя паслоў, а гэтым самым усяго народу, аднадушна пацьвердзіў Фюрэру пажаданае ў яго прамове права. Наступна ён даў клятву бязумоўна сьледаваць за гераічным кіраўніцтвам Найвышэйшага Галоўнакамандуючага!

# ВАЙНА

**Зімою толькі 2/5 нямецкае Усходняе арміі на фронце.**

Вядомы ангельскі ваенны крытык Кірыл Фэльс толькі што напісаў артыкул у лёнданскім тыднёвіку «Ілюстраваны Новы Лёндан», які адкрывае для ангельскіх вушэй **сэнсацыйныя прызнаньні.** Ён увенчывае прызнаньні ваенных аглядчыкаў з газэт—«Таймс», «Дэйлі Гэральд» і др., якія ў апошніх днёх сыстэматычна прыгатаўляюць ангельскую грамадзкую думку па паражэньні саветаў на Усходнім фронце, прадстаўляючы яго амаль праўдзіва. Калі другія ваенныя аглядчыкі стараюцца ўсё-ж такі час ад часу ўпрыгожыць палажэньне, дык К. Фэльс ня мога здабыцца на гэта. Ён бязьлітасна адкрывае англа-амэрыканскую ілжу, якая ёсьць разьлічана на тое, каб савецкімі зданлівымі перамогамі падняць упаўшую мараль брытыйскае і амэрыканскае публікі.

Мы, піша ён, ня можам скрыць пэўнага страху, калі грунтоўна разважаць аб ваеннай дынаміцы сучаснай Нямеччыны, аб яе аграмадных здольнасьцях прадукаваць першаклясны ваенны матарыял. Дзякуючы яе духу вынаходства, яна можа пусьціць у бой ніколі ня быўшыя дагэтуль навінкі. Гітлер застаўся верным сабе. Гэта трэба прызнаць. Ім быў выкарыстаны ваенна-зімовы час для таго, каб выпрубаваць ваенную машыну да найвышэйшай меры і прыгатаваць яе да веснавой афэнзывы. Калі апошняй зімой гэта ня сталася так, як плянавалася, дык да пэўнай меры дзеля надзвычай раньняга надыходу зімы. Але ўжо тагды Гітлер заявіў, што ён будзе стабілізаваць савецкі фронт. Гэта таксама яму павялося, бо ад сьнежня аж да сёньнешняга дня саветы не змаглі тагачасны ўсходні фронт зьмяніць на сваю карысьць, што можна лёгка бачыць са звычайнай карты Расеі.

Такія прызнаньні брытанскіх мужоў не зьяўляюцца ў апошніх тыднях ніякай надзвычайнасьцю. Надзвычайным ёсьць толькі тое, што гэта адкрыта прызнае Кірыл Фэльс. Ён сёньня піша, што насуперач усялякім цьверджаньням ёсьць праўдай, што Гітлеру павялося вялікую частку ваюючых аддзелаў узімку адвясьці назад, даць магчымасьць ім адпачыць, і ізноў поўнасьцю прыгатаваць іх да вясновай і летняй кампаніі.

Яшчэ месяц таму назад ваявалі па нямецкім боку толькі 2/5 аддзелаў, якія распачалі афэнзыву.

У гэтым адношаньні нічога не маглі зьмяніць савецкія цьверджаньні аб зьнішчэньні цэлых нямецкіх дывізій або палкоў. Такія цьверджаньні, што іх зімовая афэнзыва мела сваёю мэтай не здабыцьцё абшараў, але зьнішчэньне ворага, не павяліся. Аб гэтым, бязумоўна, ведаюць саветы і таму, ня гледзячы на настаўшыя адлігі, яны ўзмоцнілі свае атакі. Гэтым яны не хацелі нічога іншага асягнуць, як толькі перашкаджаць ворагу ў яго прыгатаўленьнях.

Можна было рабіць розныя камбінацыі аб тым, ці прыступленьне да вайны Паўночных Амэрыканскіх Злучаных Штатаў уплынула некарысна на дзяржавы пакту трох. Кансэквэнцыяй гэтых камбінацыяў зьяўляецца тое, што немцы атрымалі неацэньваемую дапамогу ваенным выступленьнем японцаў.

Бязумоўна, прыступленьне Японіі да вайны болей чым выраўнала прыступленьне да вайны Амэрыкі. Гэта ёсьць сапраўды няшчасьцем для Англіі, бо прыняцьце Японіяй удзелу ў агульнай ваеннай сытуацыі выклікала для яе няспрыяючы фактар, які ня так хутка зьнікне. Наадварот, гэты фактар будзе ў наступных месяцах, калі нямецкія баявыя сілы ўвойдуць у стадыю актыўных апэрацыяў, яшчэ ў большай меры адчувальным для аліянтаў.

Ня прыймаючы пад увагу нанесеныя страты ў баёх на далёкім Усходзе ў людзях і караблёх, саюзьнікі здабывалі важныя абшары сыравіны. Пры гэтым ня трэба забывацца, што вайна з Японіяй яшчэ не асягнула свайго найвышэйшага пункту.

Англія з Амэрыкай мусяць быць прыгатаваны на найгоршае, гэтае найгоршае можа быць выклікана візіяй усьціску рукі нямецкіх і японскіх аддзелаў на блізкім усходзе, прычым такая магчымасьць ня выключаецца. Калі немцы і ўступаюць сваёй лічэбнасьцю саветам, дык, аднак, што датычыць іх якасьці, стратэгічных здольнасьцяў іх гэнэральнага штабу, яны шмат перавышаюць саветаў. Трэба спадзявацца ад немцаў усялякіх неспадзеванак, і ў Лёндане і ў Вашынгтоне маюць поўную падставу баяцца гэтых неспадзяванак.

Тымчасам асаблівую дзейнасьць на Усходнім фронце разьвівае нямецкае лятунства. Яно з вялікім посьпехам закідала бомбамі Сэвастопаль, апорныя пункты на паўвостраве Керч, на Каўкаскім пабярэжжы, асабліва Навarасійск. Град бомбаў паражаў ужо некалькі разоў Сталінград, дзе, як вядома, ёсьць многа ваенных фабрык. У Чорным моры затоплена некалькі танкераў і гандлёвых караблёў, сярод іх адзін у 7.000 тоннаў караблеабыйма.

**На Данецкім адрэзку фронту** нямецка-румынскія аддзелы правялі некалькі атакаў, занялі многа моцна выбудаваных апорных, падмінаваных пунктаў ворага, узялі некалькі сот палонных.

**На сярэднім і паўночным адрэзку** фронту нямецкія войскі ня толькі адбілі некалькі атакаў ворага, але самі перайшлі да атакі, выбілі ворага з яго ўмоцненых лясных пунктаў, захапілі многа палонных і 13 гарматаў. Тут асабліва адзначыліся нямецкія аддзелы СС.

Тут на асаблівую ўвагу заслугоўвае зьнішчэньне разьбітых часьцін 33-ае савецкае арміі. Пры гэтым было занята болей як 45 вёсак і роўна 1000 бункраў. Вораг страціў пры гэтым 6000 палонных 8000 забітых, 170 гарматаў, 269 гранатамётаў і кулямётаў і 10 аэрапланаў.

Пры гэтым вельмі цікаўна, што пры ачыстцы тэрэну быў знойдзены труп камандзіра гэтае арміі гэнэрала Ефрэмава.

**На Ленінградзкім фронце** замкненьня нямецкае лятунства закідала бомбамі ізноў важныя ваенныя аб'екты ў Ленінградзе й Кранштаце.

**У Карэліі** фінска-нямецкія войскі спрычынілі ворагу крывавыя страты ў людзях і матарыяле.

**У Ледавітым акіяне** затапілі нямецкія падводныя лодкі разам з лятунствам два варожыя караблі ў 12.000 тонаў караблеабыйма, між імі адзін танкер, два далейшыя вялікія караблі былі цяжка пашкоджаны. Саветы страцілі за два апошнія тыдні разам 872 аэрапляны, тады як Нямеччына за гэты самы час толькі — 88.

**Англія.**

Як і дагэтуль Англія павялічвае цьвінтар сваіх караблёў. Марское дно й далей узбагацілася на 143.000 тоннаў караблеабыйма, да гэтага страчана за тыдзень 273 аэрапляны, тады, як Нямеччына страціла толькі 66.

Са страху і злосьці яна, каб паказаць нешта свайму грамадзянству й сваім прыяцелям — бальшавікам, прабуе «здабыць» Эўропу»! Яна высаджвае на пабярэжжа каналу — 50(!) жаўнераў, якія прабылі ў Эўропе аж 8 (восем) мінут! З другога боку «геройскі» змагаецца з мірным насельніцтвам Нямеччыны, скідаючы бомбы на жыльлёвыя памешканьні й культурныя ўстановы й памятнікі, як гэта зрабіла апошнімі днямі ў нямецкім паўночным горадзе — Росток. Вельмі магчыма, што хутка Нямеччына адпаведна да сваёй рашучасьці зарэагуе на гэта пасвойму.

**Амэрыка.**

Рузвэльт ізноў мае што запісаць на конто стратаў. Ізноў было затоплена ў яго пад носам нямецкімі і італьянскімі падводнымі лодкамі 18 караблёў на 131.000 тоннаў караблеабыйма і адзін вялікі танкер.

Трацячы ўжо амаль апошнія свае астравы на Ціхім акіяне пад ударамі японцаў, Рузвэльт «страшна» крычыць аб афэнзыве супроць Японіі, хваліць свайго галоўнакамандуючага гэнэрала Мэк-Артура, катораму «шчасьліва» надарылася ўцячы ў — Аўстралію, а пакуль што наступае на — Ірляндыю- Пасылаючы туды некалькі сваіх адзелаў, Рузвэльт хоча гэтым апраўдаць перад сваім грамадзствам, што ён, маўляў, усё-ж такі хоча наступаць, з другога боку ён гэтым памалу думае сабе «заарэндаваць» Англію й пакуль што чыста па-жыдоўску робіць гешэфты.



З перадавым аддзелам гэнэрал-палкоўніка Роммэля.

## Новыя дзяржаўныя мужы Баўгарыі

**Два члены габінэту міністраў з Жалезным Крыжам.**

**(Ад нашага прадстаўніка).**

Новы кабінэт Філёфа пачаў сваю працу. Палітычны курс астаўся бяз зьмены, тым больш, што міністарпрэзыдэнт цяпер пераняў таксама міністэрства замежных справаў Аднак, кабінэт рэпрэзэнтуюць некаторыя асабістасьці, якія дасюль былі менш вядомы эўрапэйскай грамадзкасьці або не займалі высокіх палітычных становішчаў.

Новы баўгарскі ваенны міністар гэнэрал-лейтэнант Мікола Міхоф мае апінію вельмі здольнага стратэга. Ён лічыць сягоньня каля 55 гадоў і ўжо вызначыўся ў Балканскай і сусьветнай вайне. Ён мае адзнаку Жалезнага Крыжа. У мінулым годзе ён кіраваў заняцьцем Македоніі баўгарскімі войскамі і быў, урэшце, камандуючым 1-ае арміі. Гэнэрал Міхоф вядомы, як выразны прыяцель Нямеччыны.

Новы баўгарскі міністар гандлю Мікола Захар'еў мае сягоньня 44 гады Ён студ'яваў у Празе гандлёвае права і быў выбраны ў 1931 годзе паслом у баўгарскі парлямант. Ён стаіць за скасаваньне партыяў у Баўгарыі. У 1934 годзе належаў ён да аграрнае партыі, якая імкнулася да «сялянскае дыктатуры» ў Баўгарыі. У 1934-35 г. ён быў міністрам камунікацыі, а ад 1940 г. — першым віцэ-прэзыдэнтам парляманту.

Новы баўгарскі міністар земляробства Хрысто Пятроў, які радзіўся ў 1892 г., вучыўся ў Ваеннай Акадэміі ў Софіі і прыймаў удзел у Балканскай і сусьветнай вайне. Ён мае адзнаку Желазнага Крыжа. Пасьля ён пакінуў службу й выехаў у Бэрлін, дзе скончыў Вышэйшую Тэхнічную Школу з тытулам дыплямаванага інжынера. Ён пераняў тэхнічнае кіраўніцтва дзяржаўнае капальні вугальля ў Пэрніку каля Софіі, дзе ён пасьля быў вызначаны і заступнікам гэнэральнага дырэктара. У сьнежні 1941 году ён быў вызначаны акруговым дырэктарам Софіі. У палітычным адношаньні ён ніколі ня быў заангажаваны. Ён вядомы як выразна зарысованая нацыянальня асабістасьць.

# 1-ае МАЯ

**У сувязі з вайной сьвяткаваньне 1-га Мая ў гэтым годзе перанесена на суботу 2-га Мая.**

Першае Мая — сьвята працоўных, сьвята сялян, работнікаў і працуючай інтэлігэнцыі, усіх, хто чэсна й справядліва прыймае удзел у гаспадарчым ці грамадзкім жыцьці. Гэтае сьвята ўрачыста адзначаецца ў нацыянал-сацыялістычнай Нямеччыне, у якой яно зьяўляецца сапраўдным сьвятам перамогі сьвету працы.

Нам, перажыўшым паўтарагадовае бальшавіцкае панаваньне, яшчэ добра памятуецца тая аблуда, з якой бальшавікі арганізавалі ў гэты дзень свае дэманстрацыі, каб паказаць «усяму сьвету салідарнасьць працоўных». У сапраўднасьці-ж гэтыя дэманстрацыі былі настолькі штучнымі, што ніякай шчырасьці ў іх ня было. Яскрава кідаўся ў вочы жыдоўскі характар гэтых прадстаўленьняў, бо жыды найбольш і маглі радавацца з сапраўды настаўшага для іх «шчасьлівага і радаснага жыцьця». Таму найбольшымі крыкунамі і былі жыды. Усе-ж іншыя працоўныя з мусу ішлі на гэтыя дэманстрацыі, каб, натаўкаўшыся па завулкам, урэшце, паказацца перад кучкай таксама пераважна жыдоўначальнікаў, якія на трыбуне паглядалі звысока на гэтыя «масы». Як абразы нейкіх сьвятых, нясьліся партрэты розных Кагановічаў, Бэрыяў і іншых міжнародных праступнікаў, а найбольш дыхты й фарбы зужывалася ў гэткіх выпадках, ясна-ж, на «геніяльнага, мудрага, вялікага» і т. п. — крэмлёўскага ката Сталіна. Пабольш шуму, фарбы, дэкарацыі — а ў істоце ніякае шчырасьці і ніякага сапраўднага ідэалізму. Рабочы, ня маючы адпачынку ані ў звычайны дзень, ані ў сьвята, толькі і думаў, каб як хутчэй адбыць гэтую камэдыю.

Бальшавікі імкнуліся перадусім ачмуціць працоўныя масы і таму кідалі гучныя лёзунгі аб салідарнасьці ўсіх працоўных, аб барацьбе з капіталізмам, аб «бацькаўшчыне рабочых і сялян» і г. д. Але калі і тады ўсё гэта здавалася аж занадта яскравым ашуканствам, то цяпер ня знойдзецца нікога, хто-б у гэтым ашуканстве ня быў перакананы самімі-ж бальшавікамі. Дваццаць злішнім гадоў бальшавікі туманілі головы працоўных гэтымі лёзунгамі, а цяпер гоняць гэтых працоўных у бой за інтарэсы капіталістаў Англіі й Амэрыкі. Гэтым найлепш паказалі сваё сапраўднае аблічча жыдоўска-бальшавіцкія заправілы, якія былі ў саюзе з жыдоўскімі капіталістамі. Найбольшага ашуканства народу нельга сабе ўявіць! Замест змагацца з капіталізмам, цяпер мусяць рабочыя і сяляне Савецкага Саюзу ісьці на верную сьмерць і сваёй крывёй бараніць інтарэсы жыдоўскіх «братоў» капіталістаў Англіі і Амэрыкі. Гэтым самым бальшавікі перачыркнулі свой рэклямаваны «сацыялізм» і аканчальна выявілі перад працоўнымі масамі інтэрнацыянальную салідарнасьць жыдоўскіх бальшавікоў і капіталістаў. Далей ісьці няма куды!

Дваццаць з лішнім гадоў ашуквалі бальшавікі і беларускі народ у так званай Савецкай Беларусі, дзе пад агідным лёзунгам «культуры нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьместу» праводзілі нішчэньне беларускай культуры й актыўнага беларускага элемэнту. Пад лёзунгам калектывізацыі яны агалацілі беларускае сялянства, даводзячы яго да апошняй нядолі. Сотні тысяч беларускіх сялян высланы ў Сібір, сотні тысяч лепшых сыноў Беларускага Народу зьліквідавана. Пад лёзунгам еднасьці працоўных бальшавікі хацелі адабраць і мову ў Беларускага Народу, праводзячы ў 1936 годзе «рэформу» беларускае мовы і ўпадабняючы яе да расейскай. Пад рознымі лёзунгамі жыдоўска-маскоўскі імпэрыялізм працягваў сваю крывавую лапу на беларускі народ.

Але мала таго! Гэтыя «прыяцелі» беларускага народу, карыстаючы з нагоды, прынясьлі сваё «вызваленьне» і беларусам Заходняе Беларусі і хацелі таксама й тут зрэалізаваць свае ашуканчыя лёзунгі. Толькі-ж гэта ім ужо не ўдалося! Аблуда скончылася!

Першы раз працоўныя беларусы могуць свабодна сьвяткаваць дзень 1-га Мая ў атмасфэры свабоды, бяз страху, што іх за гэта будуць прасьледаваць, як гэта было пад Польшчай, калі пралівалася кроў беларускіх працоўных, ці бяз прымусу й агіднасьці, як гэта было пры бальшавіках.

Першы раз у працоўных беларусаў дзень 1-га Мая зьвязваецца з сьветлымі надзеямі прабуджаючайся да свабоднага жыцьця Бацькаўшчыны.

Уся Эўропа праводзіць сёлета дзень першага Мая пад знакам салідарнае барацьбы з жыдоўска-капіталістычным і жыдоўска-бальшавіцкім сьветам за сваё лепшае Заўтра, пад знакам кансалідацыі сваіх сілаў для аканчальнае перамогі справядлівага грамадзкага парадку.

Сьцягі пераможнай Нямеччыны рэюць над Эўропай, яны рэюць і над Усходам, які цяпер вызваляецца з-пад жыдоўска-бальшавіцкага ярма нямецкім работнікам і селянінам. Яго высілак, яго сапраўдная працоўная салідарнасьць прынясе вызваленьне мільёнам працоўных Савецкага Саюзу.

# Прэса ў занятых усходніх абшарах

**Хутка пасьля заканчэньня ваенных дзеяньняў у занятых усходніх абшарах нямецкае цывільнае кіраўніцтва пачало арганізацыю выдавецтва газэт у нямецкай мове і мовах народаў усходу. За кароткі час, пры выдатным супрацоўніцтве мясцовага насельніцтва, асягнуты ў гэтай галіне вялікія пасьпехі ў райхскамісарыяце Остлянд (Беларусь, Літва, Латвія, Эстонія) і Украіне. Не адстае ў гэтай працы і Беластоцкая Акруга.**

У Рызе, Рэвелі, Коўні выдаецца цяпер 5 вялікіх нямецкіх штодзённых газэт. Але апрача гэтага на вялізарных абшарах абодвух райскамісарыятаў выходзіць вялікая колькасьць газэт у мовах засяляючых іх народаў. Гэта перадусім газэты ў эстонскай, літоўскай, беларускай і ўкраінскай мовах, якія здавольваюць культурныя патрэбы мясцовага насельніцтва. Гэтак, у гэнэральным камісарыяце **Літвы** выходзіць каля пяці літоўскіх газэт. Газэта « І Ляйзвэ» («У свабоду»), якая выходзіць у Коўні, мае найбольшы тыраж. Выдаецца яна ў 80.000 экзэмпляраў. Акрамя яе выходзяць газэты ў Вільні («Наўйоі Летува» — «Новая Літва»), у Шаўлях і Панявежы. Іншыя газэты выходзяць,як тыднёвыя і маюць інфармацыйны характар.

У гэнэральным камісарыяце **Латвіі** пачала выходзіць 1-га ліпеня 1941 г. латвійская газэта «Тэвія» («Бацькаўшчына»), якая хутка асягнула тыраж каля 250.000 экзэмпляраў. Акрамя гэтай газэты выходзяць і іншыя штодзенныя газэты, як «Даўгавас Вэстнэзіс» («Дзьвінскія Ведамасьці») у Дзьвінску, «Курцэмэс Вардс» («Курляндзкае Слова») у Лібаве і «Зэмгалі» («Сэмігалія») у Мітаве. Усяго ў гэнэральным камісарыяце Латвіі выходзіць да 13 газэт у латвійскай мове, дзевяць з іх выдаюць два - тры разы ў тыдзень. Да гэтага трэба дадаць яшчэ некалькі часапісаў, як спартовы, сельска-гаспадарчы й інш. Акрамя таго, у Латвіі выходзіць расейская газэта «Правда» (у Рызе).

**Эстонія,** якая таксама ўваходзіць у райхскамісарыят Остлянд, мае цяпер дванаццаць газэт у эстонскай мове. З іх у найбольшай колькасьці выдаецца Рэвельская газэта «Эсті Зёна» («Эстонскае Слова»)— 70.000 экзэмпляраў.

Прэса ў гэнэральных камісарыятах Літвы, Латвіі і Эстоніі змагла хутка наладзіць сваю працу, бо там бальшавікі панавалі ня доўга, і таму ранейшыя сілы й установы маглі захавацца ў большай меры, чым у іншых краёх. Да таго ў Эстоніі, на шчасьце, уцалелі друкарні ў Рэвелі й Дорпаце.

Вялікі рост прэсы пачаўся на **Украіне,** дзе вайсковыя ўлады шырока зарганізавалі выдавецкую працу. У сучасны мамэнт на Украіне выходзіць звыш 40 украінскіх газэт, а таксама некалькі газэт у расейскай мове. Некаторыя з іх маюць даволі вялікі тыраж, як, нпр., «Ново Українське Слово» у Кіеве (звыш 50.000 экзэмпляраў), «Нова Україна» (звыш 25.000 экзэмпляраў). Вялікшыя газэты выходзяць яшчэ ў Роўне, Луцку, Палтаве, Днепрапятроўску, Хэрсоне, Вінніцы, Мікалаеве, Крамянцы і г. д. Іншыя газэты маюць тыраж ад 3000 да 15.000 экзэмпляраў. На Крыме выходзіць расейская газэта «Голос Крыма».

**У Беларусі** выдавецтва газэт таксама наладжваецца. Ужо цяпер ёсьць цэлы рад вялікшых газэт, як «Менская Газэта» і «Голас вёскі», якія выходзяць у Менску, «Баранавіцкая газэта» у Баранавічах, у Бабруйску і Барысаве. Акрамя таго, выходзіць вучнёўскі часапіс, які часова заступае нестаючыя падручнікі ў беларускіх школах. У Вільні выходзіць беларуская газэта «Беларускі Голас». У цэлым радзе раёнаў камісарыяту Беларусі выдаюцца раённыя газэты, якія маюць інфармацыйны й мясцовы характар.

У Беластоку беларусы, пасьля выданьня газэты «Беларускі Голас» адразу пасьля прыходу Нямецкае Арміі, цяпер маюць сваю тыднёвую ілюстраваную газэту «Новая Дарога».

У галіне прэсы перад беларусамі стаяць яшчэ вялікія заданьні. Трэба думаць, што калі створыцца ўгрупаваньне беларускіх паэтаў, пісьменьнікаў і журналістаў, калі ў адбудову нашай Бацькаўшчыны ўцягнуцца ўсе жывыя беларускія сілы, існуючы стан значна палепшыцца. Ня мала ўплыве на разьвіцьцё выдавецкай працы наладжаньне папернай вытворчасьці на Беларусі, а самае галоўнае — далейшыя ваенныя посьпехі.

Але ўжо і тое, што зроблена, мае для нас вялікую вартасьць, бо трэба памятаць адно, што новая беларуская прэса выкуе сьвядомых беларусаў і будзе служыць сапраўды нашай нацыянальнай справе. Кожная новая беларуская газэта, якая пачынае выдавацца ў цяперашніх умовах, гэта вялікі культурны факт, значэньне якога зразумее кожны, хто ведае, у якім загоне было сапраўднае жывое беларускае слова пад панаваньнем палякаў і бальшавікоў.

---

якія зараз-жа раздаваліся ўшыркі і ўвышкі, пасьля чаго ўжо далятаді да вуха выбухі снарадаў. Усе гэтыя выбухі, нібы грыбы пасьля дажджу, якось сыстэматычна перасоўваліся ў адным кірунку, — у кірунку да вёскі. Раптам цёмна-палавыя капіцы дыму паказаліся ў канцы, у сярэдзіне вёскі,—адна, другая і безьліч... а па-над цёмнасьцю выбухаў ужо відны і крывавыя языкі вагню. Вёска пачала гарэць... Выбухі снарадаў перайшлі ў суседнюю з вёскай парослую бярэзьнікам лагчынку. Хутка з лагчыны па ўзгорку сярод купак маладога бярэзьніка пачалі перасоўвацца цемпаватыя плямы, якія разрываліся выбухамі снарадаў... Відаць вёска была гняздом бальшавікоў. За паўтары-дзьве гадзіны страляніна суцішылася. Вораг быў выкураны з сваіх нораў.

Тымчасам кухня прыгатавала ўжо палудзень. Сьпешна палуднуем і... — далей за ворагам, які панічна ўцякае.

Прыяжджаем да Млодавы. Тут, як вынік сёньняшніх раньніх баёў, знаходзяцца ўжо тысячы палонных. Маё вока пачынае прызвычайвацца да вонкавага выгляду гэтых усходніх гордаў: абарванасьць, бруд і апушчанасьць, відаць, іх неадыйманая ўласьцівасьць. Што асабліва кідаецца ў вочы і зьдзіўляе, дык гэта іх поўная духовая апатыя. Гэта ня людзі, а жывыя нябошчыкі. Падходзім да іх бліжэй. Бачым, што сярод палонных ёсьць шмат аброслых старэйшых векам, але ёсьць таксама і зусім бязвусыя. Пытаем аднаго: «Сколькі табе гадоў?»

— Восемнаццаць, адказвае быццам не сваім голасам.

Па кароткім апросе некаторых палонных, галоўным чынам да якіх яны належалі вайсковых частак, пакідаем гэтую жудасную масу людзей. Нас паведамілі, што цікавыя рэчы можна пабачыць у сядзібе НКВД. Едзем. У склепе пад домам мы пабачылі сем закатаваных трупаў. Два з іх яшчэ падавалі такія-сякія адзнакі жыцьця. Гэта былі украінскія нацыяналісты. З пашанай схіляем голавы перад ахвярамі чырвонага тэрору і маўкліва выходзім з несамавітага падзямельля.

Па далейшай нашай дарозе на ўсход, у Грушаве, здарылася адна вельмі цікавая рэч. Некалькі дзесяткаў сялян з суседняй вёскі прывялі да нас бальшавіцкую банду з пяці чалавек. Трох з пасярод іх былі жыды.

— Пытаем: «Што гэта за людзі?»

— Ах, паночкі, адпавядаюць сяляне, гэта-ж найбольшая наша немач. Праз іх сотні найлепшых нашых людзей—сялян і інтэлігэнцыі — з цэлага раёну вывязьлі бальшавікі ў далёкую Сібір. Гэтая немач давяла тут усіх да таго, што ніхто з нас ня быў пэўны свайго спакойнага «заўтра»! Яны ўжо, гады, уцякалі, але не павялося гэта ім. Думалі самі разьлічыцца з імі, аднак, парашылі, што будзе ляпей перадаць іх вам.

— Што вы рабілі, пытаемся ў аднаго з іх, па выгляду гэршта банды?

Маўчыць. Пытаемся далей.

— Раскажыце, як вы мучылі тутэйшых людзей?

— Дзе там, кажа, — мы з гэтым ня мелі нічога супольнага. Мы ўсе працавалі ў фінансавым аддзеле.

—А мо' так паклікаць сялян, каб яны вам расказалі, што вы рабілі?

— Яны гатовы брахаць на кожнага, кажа гэршт гэтай групы.

Бачачы, што яны ня хочуць прызнавацца і ня маючы больш часу на далейшую гутарку з імі, адпраўляем іх пад канвоем у тылы. Уся вёска ад старых да малых уключна высыпала з сваіх хат паглядзець, як ад іх адходзіць на заўсёды гэнае няшчасьце.

24-га чэрвеня пад'яжджаем на тры кілямэтры да Нямірава. Затрымоўваемся вечарком каля густога маладога ляска на хутары Слабадзянка. Толькі што мы памыліся пасьля пыльнай дарогі і з прыемнасьцю пацягнулі ў сябе сьвежае лясное паветра, як прымчаўся лучнік на матацыклі і заявіў: «Бальшавікі з вялічэзнаю колькасьцю танкаў наступаюць на нас праз Няміраў!».

Раздаецца каманда — «Увага, усе па сваіх мяйсцох! Прыгатаваць газмаскі! Сытуацыя вострая!»

**(Працяг у наступным нумары).**

## Рузвэльт наведае Канаду

Рузвэльт зьбіраецца хутка наведаць Канаду, каб адказаць рэвізытай у Оттаве канадыйскаму міністарпрэзыдэнту Маккэнзіе Кінгу. Тэрмін паездкі яшчэ трымаецца ў таямніцы, але пагаварваюць, што, праўдападобна, ён прыедзе на паседжаньне парляманту ў Оттаве. Гэта значыць, што падарожжа адбудзецца ў чэрвені. У пятніцу Рузвэльт меў даўжэйшую канфэрэнцыю з Маккэнзіе Кінгам, які, як вядома, цяпер прабывае ў Вашынгтоне.

## Эўропа памагае ў адбудове на Ўсходзе

Гэтымі днямі 5 нідэрляндзкіх рамесьнікаў выехалі з Гаагі ў Харкаў. Яны прадстаўляюць перадавую брыгаду групы 800 рамесьнікаў, якія перадусім маюць працаваць пры ўзнаўленьні ўрадовых будынкаў у Харкаве. Перадавая брыгада правядзе падрыхтаваўчыя работы, каб хутка пасьля магла адправіцца на работу і ўся група. Так як дасюль занятыя ў Остляндзе нідэрляндзкія рабочыя, так цяпер гэтыя рамесьнікі, бязсумліву, у сваёй рабоце пакажуць сябе як найлепш.

## Ваввэль паважны ранены

Пасьля здабыцьця японцамі Андаманскіх выстравоў у Бэнгальскай затоцы, як падае газэта «Іоміуры Шымбун», аказалася, што брытанскі галоўнакамандуючы ў Індыі, гэнэрал Ваввэль, у часе японскае паветранае атакі 10 лютага быў ранены. Карэспандэнт газэты паведамляе з Порт Блэр, што гэтым самым выкрыта ілжывасьць амэрыканскага радыёкамунікату з 26 лютага, што быццам Ваввэль быў ранены ў часе выпадку з самалётам. Успомненая атака японскіх ваенна-марскіх самалётаў паводле газэты адбылася ў мамэнце, калі Ваввэль якраз высадзіўся ў порце вострава ў часе сваёй падарожжы паміж Явай і Індыяй. Раненьні Ваввэля асколкамі японскае лятунскае бомбы былі вельмі паважныя, а самалёт, з якога ён высеў, быў цалком зьнішчаны.

## Мэксыка ня хоча ніякіх бальшавікоў

Міністар унутраных спраў паведаміў, што ён забараніў высадзіцца савецкім і польскім падданым з дзейнічаўшай раней у Гішпаніі інтэрнацыянальнай брыгады. Справа датычыць 37 асобаў, якія ў мінулым тыдні хацелі высесьці ў Вэракрузе, але былі адпраўлены назад, як «небясьпечныя радыкалы».

## Бразылія хоча агалаціць японцаў

**Адабраньне канцэсіяў у абшары Амазонкі.**

Выдаваная ў Рыо дэ Жанэйро газэта «Оглёбо», на падставе заяўленьняў аднае аўтарытэтнае ўрадовае асобы, паведамляе аб уневажненьні ўсіх канцэсіяў, якія мелі японскія каляністы ў абшары Амазонкі. З боку ЗША, асабліва ў апошнім часе, выказвалася сільнае зацікаўленьне заселеным японцамі абшарам. Японскія грамадзяне, зрабіўшыя арэндаваныя ім абшары ўраджайнымі, карысталіся там далёка ідучымі прывілеямі аж да адміністрацыйнае аўтаноміі, правам свабоды веравызнаньня, правам утрымліваньня школ, паліцэйскіх органаў і г. д.

# Ангельскія войскі выйшлі з Ірану

**Умацаваньні ў зоне Массуля. Перагрупіроўка аслабленых баявых сілаў на Сярэднім Усходзе. Аўстралійцы й новазэляндцы вывозяцца.**

**(Ад нашага прадстаўніка)**

У выніку інспэкцыйнага падарожжа гэнэрала Аўшынліка праз паўдзённы Іран, Ірак, Сырыю, Трансіорданію і Палестыну пастаўноўлена, як падаюць італьянскія паведамленьні з Турцыі, правесьці перагрупіроўку брытанскіх баявых сілаў на Сярэднім Усходзе. Перагрупіроўка зрабіла так званую 9 і 10 арміі вельмі нязначнай па колькасьці рэзэрвай знаходзячайся ў Паўночнай Афрыцы 8-ай арміі. Аднэй з прычынаў гэтага перакіненьня войск, якое адкрыла бальшавіцкай арміі дарогу да Пэрсіцкае затокі, была неабходнасьць вывядзеньня аўстралійскіх дывізыяў у Сырыю і Палестыну. У абшары, займаным 9-й арміяй гэнэрала Мэтленд Вільсона асталося з раней знаходзіўшыхся там шматлікіх аўстралійскіх угрупаваньняў толькі ня больш аднае дывізыі, якая чакае на загад маршу да пасадачнага порту. Годнай увагі зьяўляецца пашыраная брытанскай прапагандай у сырыйскай прэсе вестка з Багдаду, у якой асабліва націск кладзецца на цьверджаньне, што іракскі нафтовы раён «знаходзіцца і далей у ангельскіх руках». Гэта гучыць так, як-бы ня было зусім сабо самой зразумелым і як-бы перадусім бальшавікі ўжо мелі перайсьці іракскую граніцу далей на поўдзень. Моссульская зона, згодна з успомненым комунікатам сырыйскае прэсы, за апошнія месяцы была сільна ўмацавана. «Па-за гэтымі ўмацаваньнямі стаіць на варце 10-ая армія гэнэрала Квінану», гаворыцца даслоўна ў камунікаце. Іран, які тэарэтычна яшчэ належыць усё яшчэ да сфэры загадваньня Квінану наагул пры гэтым не ўспамінаецца. Дадзеныя аб вы будаваньні спалучаючай лініі паміж Іракам, Сырыяй і Палестынай указвае на тое, што ў Каіры лічацца з неабходнасьцю хуткага дастаўленьня большых часьцей з гэтага абшару.

## У Міжземным моры затоплена 600000 БРТ.

**Акрамя таго затоплены ваенныя караблі 200.000 тонн**

Паводле падрахунку «Джіорнале д'Італія», за 22 месяцы ад уваходу Італіі ў вайну, нямецкімі й італьянскімі ваенна-марскімі і паветранымі баявымі сіламі затоплена ў Міжземным моры звыш 200.000 тоннаў вадавыціску брытанскіх ваенных караблёў. Далейшыя адзінкі брытанскага ваеннага флоту агульным лікам 107.000 тоннаў так цяжка пашкоджаны, што яны на даўгі час выведзены з строю. Цыфра варожага гандлёвага караблеабыйма, затопленага ў Міжземным моры, асягнула звыш 600.000 БРТ. Сярод затопленых італьянскімі сіламі брытанскіх ваенных караблёў, у страце якіх прызнаецца Лёнданскае адміралцейства, знаходзіцца восем крэйсараў і 26 падводных лодак. Адна далейшая брытанская падводная лодка, як падае камунікат Італьянскае Арміі за пятніцу, затоплена тарпэднай лодкай графа Тэнкэ. Сярод выведзеных на даўжэйшы час са строю адзінак знаходзяцца перадусім цяжка пашкоджаныя італьянскімі штурмовымі лодкамі два лінейныя караблі «Квін Элізабэт» і «Валіант», рэмонт якіх, як пацьвярджаюць здымкі з самалётаў, ня зможа быць доўга закончаны.



Новы ганчак Фокк—Вульф.

## Авіяносцы бяз самалётаў

**Слабасьць брытанскае ваенна-марское процілятунскае зброі. «Вырашэньне вайны ў паветры немагчымае».**

У Англіі далей вядуцца спрэчкі аб новай арганізацыі лятунства й флоту. Асабліва ажыўленая дыскусыя ўзьнікла ў Верхняй Палаце. Паводле швэдзкіх паведамленьняў, лёрд Уінстэр, як прадстаўнік флоту, выказваўся за найдалей ідучае супрацоўніцтва паміж флотам і лятунствам. Лёрд Трэншэрд абстаіваў самастойнасьць лятунства, паклікаючыся пры гэтым на нямецкае лятунства, якое многа больш незалежнае, чым ангельскае. Лёрд Уінстэр, урэшце, заявіў, што ніхто больш ня прытрымліваецца згубнае дактрыны, паводле якой вайна можа быць вырашана ў паветры. Тэорыя аб тым, што бомбавыя самалёты маглі-бы зьнішчыць нямецкую індустрыю, таксама нічога нявартая. Тэорыяй аб самастойнасьці лятунства флот ізноў быў-бы пакрыўджаны, а ваенна-марская процілятунская зброя яшчэ мае ў распараджэньні вельмі мала і толькі ўстарэўшыя машыны. Ваяўніча настроены лёрд пацьвердзіў свае цьверджаньні пэўнымі камунікатамі з амэрыканскіх газэт, у якіх між іншым, гаворыцца, што авіяносец «Фармідабль» у бітве каля Маляпан меў 27 самалётаў замест 70, што далей «Ільлюстрыус» у бітве каля Тарантэ мусіў пазычыць ад «Эгля» восем тарпэдных самалётаў, каб мець баявы склад у 21 самалёт, а прызначаныя 35 ці 30 самалётаў «Вікторіусу» і «Арк Роялю» былі таксама за малыя.

## Вялікія савецкія страты на Сьвіры

**Адбіты ўсе бальшавіцкія атакі. Дэзэртыры расказваюць аб дрэнным заспасабленьні харчамі.**

«Фіны мусяць быць прагнаны ад Сьвіру» — пад гэткім баявым клічам, як паведамляюць справаздачы карэспандэнтаў з Гэльсінак, распачалі саветы шалёную афэнзыву супроць фінскіх становішчаў паміж Ладажскім і Анежскім возерам. Хоць яны кінулі ў агонь сьвежыя рэзэрвы салдатаў — швэдзкія карэспандэнты гавораць аб сібірскіх угрупаваньнях—саветам дасюль не ўдалося ня толькі дзе-небудзь прабіцца ў фінскія становішчы, але яны мусілі за гэтую спробу заплаціць аграмаднай цаной крыві. Скандынаўскае Тэлеграфнае Бюро піша, што савецкія страты на Сьвіры ад пачатку афэнзывы складаюць разам ня менш, чым 10.000 чалавек.

Фінскі прадстаўнік «Афтонблядт» зазначае, што савецкія аддзелы ў выніку вялікіх стратаў ужо цяпер значна абнізіліся. Ад першых дзён афэнзывы павялічваецца да таго лік савецкіх дэзэртыраў, якія расказваюць аб дрэнным заспасабленьні харчамі іх войскаў па прычыне недастатковых этапных спалучэньняў. Вялікая часьць салдат пахварэла, вымучылася й зьнявериласяя. Але іх гоняць у вагонь афіцэры й савецкія камісары з рэвальвэрамі ў руках. Швэдзкі камунікат падчырківае наступна, што фінскі фронт, які панёс вельмі нязначныя страты, стаіць непарушна, як і раней.

## Растрэляны жыдоўскі праступнік

**Дзяржаўны Кіраўнік СС і Шэф нямецкае паліцыі падае да ведама, што 15.4 1942 г. быў растрэляны жыдоўскі праступнік, ужыўшы гвалт, Гюнтэр Ізраэль Ранзэнбэрг.**

## Вашынгтон хоча загарнуць гандлёвы флот Паўдзённае Амэрыкі

Паводле камунікату па радыё з Буэнос Айрэсу, Белы Дом зажадаў ад ібэра-амэрыканскіх краінаў нацыяналізацыі іх гандлёвага флоту. Вашынгтон хоча гэткім чынам загарнуць у свае рукі ўсе паўдзенна-амэрыканскія караблі. Паклікаючыся на пастаноўленае на канфэрэнцыі ў Рыо «даручэньне», ЗША, а іменна як управамоцненыя «Панамэрыканскага Камітэту Суднаходзтва» маюць праводзіць рэканструкцыю нова створанага дзяржаўнага флоту, што было-б раўназначна з выдачай яго камісіі суднаходзтва ЗША. Справа датычыць пры гэтым караблёў паўдзённа-амэрыканскіх прыватных карабельных таварыстваў, якія маюць толькі некалькіх сот тысячаў бруттарэгістраваных тоннаў, але недахоп караблёў такога роду, што паўночна - амэрыканскі дырэктар флоту адмірал Лянд ня хоча адмовіцца і ад іх.

Што-ж датычыць паасобных паўдзённа-амэрыканскіх урадаў, то здаецца ўжо пэўным, што Аргэнтына адкіне паўночна-амэрыканскую прапанову. Таксама й іншыя ўрады, якія, наагул бяручы, варожа адносяцца да цеснага зьбліжэньня з ЗША., захоўваюцца адносна Вашынгтонскага праекту адмоўна. З гораду Мэксіко паведамляецца, што мэксыканскі саюзны ўрад плянуе на надыходзячае лета ўстанаўленьне ўласнае лініі плаваньня паміж Вэракрузам, Лісабонам і Кандыкеэм.

*Druck. Deutsche Druckerei, Bialystok.*